*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша Слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года    № 34 (522)    22 ЖНІЎНЯ 2001 г.

## *Пяты кандыдат*

Цэнтрвыбаркам зарэгістраваў чытырох кандыдатаў для барацьбы за пасаду прэзідэнта Беларусі. Разам з тым колькасць суб'ектаў уцягнутых у перадвыбарную калатнечу непамерна большая. За кандыдатамі стаяць вертыкалі і гарызанталі інтарэсаў, разлікаў, проста спадзяванняў.

Разам з тым, чым бліжэй да выбараў, тым выразней у перадвыбарчую кампанію ўключаецца яшчэ адзін чыннік -- Беларушчына і ўсё, што гэтым словам аб'ядноўваецца. Беларушчына стала, як бы пятым кандыдатам у гэтай барацьбе. Яна становіцца ўплывовай субстанцыяй і пры пэўных умовах можа аказацца вырашальным фактарам.

Традыцыйная нацыянальная талерантнасць беларусаў не ёсць нацыянальным нігілізмам, як гэта любяць сцвярджаць і левыя, і правыя. На пытанне нацыянальнасці 83% насельніцтва Беларусі адказваюць: беларус. А на канкрэтнае пытанне: "Ты за Беларусь ці супраць?" амаль 100% за Беларусь.

Іншая справа, што ў многіх з іх гэтыя Беларусі не падобныя адна на адну.

Пры старце прэзідэнцкай гонкі ярка выражаных беларускіх кандыдатаў было двое Зянон Пазьняк і Сямён Домаш. Пры гэтым больш талерантны Домаш атрымаў вырашальную перавагу над радыкальным Зянонам. Разам з Домашам увесь спектр Беларушчыны выйшаў на заключны этап. Пры гэтым выйшаў так, што прымусіў лічыцца з сабой усіх і асабліва тых, хто спадзяваўся перавесці перадвыбарную барацьбу ў плоскасць барацьбы дэмакратыі супраць дыктатуры. Нічога з гэтага не выйшла. Дэмаратыя без нацыянальнай апоры аказалася зданню якая страшная для дыктатуры датуль, пакуль тая хоча баяцца. Пасля выбараў ад гэтай дэмакратыі ізноў застануцца толькі менскія тусоўкі. Беларушчына застанецца пры любых варунках.

Заключэнне пагаднення ўнутры "пяцёркі" не вырашыла пытання. Нацыянальныя сілы яго проста праігнаравалі. Усе заявы кіраўнікоў палітычных партый нічога не значылі. Рэгіёны "леглі".

Новае пагадненне паміж Домашам, Ганчарыкам і палітычнымі партыямі ў значнай меры спроба ўлічыць беларускія інтарэсы.

У пагадненне ўпісаны пункт: "Стварыць спрыяльныя ўмовы для развіцця нацыянальнай культуры мовы, традыцый і ўжывання нацыянальнай гістарычнай сімволікі беларускага народа".

Домашу, як гаранту выканання гэтага пункта прадугледжана пасада прэм'ер-міністра.

Само пагадненне выкананае на беларускай мове.

Пры атрыманні пасведчанняў аб рэгістрацыі кандыдатамі ў прэзідэнты і Домаш, і Ганчарык выступілі на беларускай мове. у гэтым разрэзе беларушчыны было 50%.

Да 90% усёй агітацыйнай прадукцыі сістэмы незалежнага назірання выканана на беларускай мове.

Выбарчыя бюлетэні накладам у 7 мільёнаў асобнікаў будуць друкавацца па-беларуску.

Пры гэтым ТБМ нічога не навязвае кандыдатам. ТБМ не ўмешваецца ў стратэгію і тактыку перадвыбарчай барацьбы. Навязвае правілы і адносіны да нацыянальнага сама атмасфера.

Спадар Гайдукевіч у інтэрвію "Радыё Свабода" выказаўся за пераважнае значэнне беларускай мовы. І не будзе нічога дзіўнага, калі падчас перадвыбарчай кампаніі па-беларуску загаворыць і А. Лукашэнка.

Вялікай заслугай грамадскіх арганізацый і ў першую чаргу ТБМ з'яўляецца тое, што Беларушчына сёння ёсць вельмі важным чыннікам беларускай палітыкі ў цэлым і прэзідэнцкай кампаніі ў прыватнасці.

Таму і Зімоўскі зменшыў сваю ўвагу да дэмкандыдатаў, і палову эфірнага часу апошняга "Рэзанансу" прысвяціў змаганню менавіта з Беларушчынай.

**Да выбараў другога прэзідэнта Рэспублікі Беларусь засталося 18 дзён**

**25 жніўня спаўняецца 10 гадоў з дня пацверджання Вярхоўным Саветам БССР асноўных прынцыпаў, закладзеных у Дэкларацыі аб дзяржаўным сувернітэце Беларусі. У гэты дзень было абвешчана вяршэнства беларускіх законаў над саюзнымі, што канстатавала фактычны канфедэратыўны характар адносінаў паміж Беларуссю і СССР.**

## Кангрэс дэмакратычных сілаў Беларусі

18 жніўня 2001 года беларуская дэмакратыя нарэшце разрадзілася даўно пераношаным V Кангрэсам дэмакратычных сілаў, на якім былі прадстаўлены ўсе дэмакратычныя партыі і грамадскія арганізацыі, акрамя партыі "Надзея".

Кангрэс пацвердзіў імкненне да адзінага кандыдата, але стоячы вітаў не Ганчарыка, а Домаша.

Разам з тым прадстаўніцтва на Кангрэсе 500 чалавек ад Менска і 300 ад рэгіёнаў наводзіць на пэўныя пытанні. Чаму ў сярэднім ад кожнай вобласці было людзей у 10 разоў менш, чым ад сталіцы? Чаму ад Гарадзенскай вобласці, вобласці з найбольш развітымі дэмакратычнымі структурамі, на Кангрэсе было ўсяго некалькі чалавек? Чаму Гарадзенскай абласной асамблеі няўрадавых арганізацый наогул не была выдзелена квота прадстаўніцтва на Кангрэсе? Ці з'яўляецца Кангрэс у гэтым выпадку ўсебеларускім, ці гэта чарговая менская тусоўка?

**Беларуская мова – ТБМ – наша будучыня**

## *Ахвяраванні на ТБМ*

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Бязрукава (Менск) | - 700 руб. |
| 2. | Кулік Яўген (Менск) | – 20 дол. |
| 3. | Жучкова Наталля (Менск) | - 5.000 руб. |
| 4. | Дзятук Ю. В. (Бярозаўка) | - 1.000 руб. |

Суполка БелаПан г. Менска

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Барбрыч Генадзь | - 4.500 руб. |
| 2. | Буткевіч Вячаслаў | - 4.500 руб. |
| 3. | Вельтнер Юрый | - 3.750 руб. |
| 4. | Гаравы Марат | - 10.000 руб. |
| 5. | Глод Уладзімір | – 8.750 руб. |
| 6. | Знаткевіч Аляксей | – 3.750 руб. |
| 7. | Кароткая Наталля | – 1.500 руб. |
| 8. | Ліпай Алесь | – 8.750 руб. |
| 9. | Лемяшава Галіна | – 3.000 руб. |
| 10. | Савасценка Ігар | – 1.500 руб. |
| 11. | Шырагі Юрый | – 750 руб. |
| 12. | Інін Мікалай | – 1.250 руб. |

Ахвяраванні на дзейнасць ТБМ сёння – гэта інвестыцыі ў росквіт незалежнай Беларусі і мовы яе народа заўтра!

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

## Адкрыты ліст
### пракурору Гарадзенскай вобласці Васілю Літвінаву і начальніку УКДБ па Гарадзенскай вобласці Мікалаю Сворабу

Грамадскае аб'яднанне "Беларуская асацыяцыя журналістаў" звяртае Вашу ўвагу на тое, што падпарадкаваныя Вам структуры ажыццяўляюць недазволенае ўмяшальніцтва ў дзейнасць сродкаў масавай інфармацыі.

Гэтак, у траўні 2001 г. усіх супрацоўнікаў газеты "Пагоня" выклікалі ў аддзел барацьбы з тэрарызмам мясцовага УКДБ для тлумачэнняў у сувязі з публікацыяй "Інтэграсты ў Гродна не прыедуць" ("Пагоня" ад 10 траўня 2001 г.). У гэтым артыкуле ў якасці ілюстрацыі прыводзіліся вытрымкі з так званай заявы дасюль невядомай Рады камандзіраў беларускай нацыянальнай самааховы. Супрацоўнікі КДБ цікавіліся не столькі інфармацыяй пра гэтую заяву, сколькі пытаннямі арганізацыі дзейнасці рэдакцыі. Некаторых журналістаў выклікалі ў КДБ па тры разы.

7 жніўня супрацоўнік КДБ запрасіў на "канфідэнцыяльную размову" журналіста "Пагоні" Паўла Мажэйку. Гэтую размову журналіст расцаніў як "спробу звычайнай вярбоўкі ці ўскоснага запалохвання" ("Пагоня" №32 ад 9 жніўня 2001 г.). Супрацоўнік КДБ, у прыватнасці, зазначыў, што "хоць закрыццё газеты і не ўваходзіць у кампетэнцыю КДБ, аднак для гэтага існуюць адпаведныя органы".

Ужо на наступны дзень галоўнага рэдактара газеты Міколу Маркевіча выклікаў намеснік пракурора вобласці, які заявіў, што будзе рыхтаваць матэрыялы на закрыццё "Пагоні".

Згаданыя факты сведчаць пра выкарыстанне праваахоўных органаў для ціску на незалежную прэсу, што з'яўляецца парушэннем свабоды слова і забараняецца законам (арт. 48 Закона "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі").

ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" заяўляе пратэст супраць спробаў органаў КДБ весці вярбоўку журналістаў і патрабуе спыніць умяшальніцтва ў дзейнасць незалежных друкаваных выданняў.

Просім Вас правесці службовае расследаванне фактаў, загаданых у гэтым лісце, і прыцягнуць вінаватых да ўсталяванай законам адказнасці.

Прынята на Праўленні ГА "БАЖ".
14.08.2001.

# Марыі Міцкевіч – 50 гадоў

*13 жніўня ў Менску адзначалі дзве даты, звязаныя з імем Якуба Коласа.*

*Ускладаннем кветак да магілы песняра былі адзначаны 45-я ўгодкі з дня яго смерці.*

*А ў доме-музеі Якуба Коласа адзначалі 50-годдзе з дня нараджэння ўнучкі Якуба Коласа Марыі Міцкевіч. Ад ТБМ спадарыні Марыі была падаравана карціна Міколы Купавы з выявай віленскага дома, у якім нарадзілася жонка Якуба Коласа Марыя. Менавіта ў гонар гэтай бабулі і была некалі названа сёлетняя юбілярша*

Марыя Міцкевіч – старшыня рэспубліканскага дзіцячага фонду духоўна-культурнага адраджэння “Сакавік”, супрацоўніца Нацыянальнага культурна-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, сябра Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”, міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, таварыства “Беларусь – Ірландыя”, Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Маці траіх дзяцей.

Марыя Міхайлаўна Міцкевіч – унучка Якуба Коласа і Янкі Маўра. Сын песняра Міхась і дачка пісьменніка прыгодніцкага жанру Наталля пажаніліся ў Маскве, вярнуліся на радзіму і пражылі разам больш за 50 гадоў. Сама ж Марыя па прафесіі матэматык. Відаць, перадалося ў спадчыну ад бацькі – доктара фізіка-тэхнічных навук і маці – дацэнта Політэхнічнай акадэміі. Што ж прымусіла яе, супрацоўніка Інстытута матэматыкі Акадэміі навук, пакінуць месца працы, перайсці ў Нацыянальны культурна-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны і заняцца праблемамі беларускай дыяспары. Сама Марыя лічыць, што спрацавалі гены славутых дзядоў. Цікава даследаваць спадчыну Якуба Коласа, вярнуць Беларусі яшчэ не адкрытыя старонкі яго жыцця. Марыя мае добрыя стасункі з лонданскай бібліятэкай і музеем імя Ф. Скарыны і а. Аляксандрам Надсанам, а таксама беларускай дыяспарай у другіх краінах: Канадзе, Злучаных Штатах Амерыкі, Бельгіі, Францыі і інш.



Марыя Міцкевіч, яе намеснік Марына Язневіч з Івонкай Сурвілай на святкаванні ўгодкаў БНР у Парыжы

Пра сваіх славутых дзядоў Марыя ведае найбольш з успамінаў родных. Блізкія расказваюць пра коласаўскую дабрыню і гасціннасць, яго дапамогу людзям. Колас удзельнічаў у рабоце савецкага Камітэту абароны міру. Да яго нярэдка звярталіся простыя людзі – на адным са стэндаў музея Я. Коласа можна ўбачыць карэньчыкі пераводаў на разнастайныя сумы. Сяляне прасілі Коласа прысылаць грошай на набыццё каровы, на рамонт дома, на гаспадарчыя патрэбы. Асабліва ўзмацніліся просьбы пасля вайны. Колас часта бываў у дзіцячых дамах, апекаваўся сіротамі, пералічаў свае ганарары на іх рахунак.

Блізкія расказваюць, што ў дзень свайго адыходу ў іншы свет Колас паспеў павіншаваць унучку з яе пяцігоддзем. У гэтым Марыя бачыць пэўны сімвалічны сэнс. Сама Марыя памятае, як жыла маленькай у Коласавым доме, дзе цяпер знаходзіцца музей і на месцы спальняў і гасцінных размяшчаюцца экспазіцыйныя залы. У гэтым годзе зімой музей адзначыць сваё 40-годдзе, і ўжо цяпер усе Коласавы спадчыннікі рыхтуюць сядзібу да гэтага юбілею, а таксама да 120-годдзя Коласа, якога чакаюць у наступным годзе. Трэба прыдаць належны выгляд і гаспадарчым пабудовам, і лавачцы пад вязам, дзе любіў сядзець пясняр, і прыгрэбку дзе захоўваліся слоікі з баравічкамі, сабранымі Кастусём Міхайлавічам.

Марыя жыве ў Коласавай сядзібе і не ўяўляе, як можна жыць хай сабе і ў самых абстаўленых пакоях шматкватэрнага дома. Яна лічыць, што на паверсе чалавек адрываецца ад зямлі, губляе крыніцу цяпла і мудрасці.

Другога свайго дзеда Марыя помніць лепш, бо часта адпачывала ў яго на лецішчы. Дзед быў цікавым надзвычайна! І сваё захапленне вандроўкамі, замежнымі краінамі яна лічыць спадчынай Янкі Маўра. Марыя ведае гісторыю напісання многіх твораў дзеда, помятае яго энцыклапедычную падрыхтаванасць. Лічыць, што ў спадчыну ёй перадалася і любоў да філатэліі. Калекцыя марак Марыі з адлюстраваннем флоры і фаўны Заходняй Еўропы пэўны час лічылася адной з лепшай у Менску.

З гумарам успамінае Марыя гісторыю, як дзед Маўр дапамагаў унуку пісаць сачыненне, і як яны абодва атрымалі па ім двойку.



Марыя Міцкевіч на могілках Пер-Лашэз у Парыжы ля магілы прэзідэнта Рады БНР Абрамчыка

Доўгі час ведаючы Марыю, я заўважаю ў ёй не толькі рысы двух славутых родаў, але і яе ўласныя асаблівасці, шырокія, маштабныя. Маці траіх дзяцей, яна паспявае справіцца і з выхаваннем, і з гаспадаркай. Але ўсё гэта спраўджвае беларускімі сцежкамі. Для малодшых – Васіля і Васіліны – старалася адшукаць беларускую гімназію, для старэйшага Івана – зладзіць сапраўднае беларускае вяселле. Як аўтар сцэнара, я памятаю, як Марыя імкнулася захаваць усе сапраўдныя нашы вясельныя абрады і традыцыі, клапацілася, каб у дзень нараджэння маладой сям'і праўнука Коласа і Маўра за сталамі гучала мова славутых дзядоў.

Марыя Міцкевіч шчыруе і на грамадскіх прасторах. Пяць гадоў запар яна была дэпутатам Першамайскага райсавета, працуе ў Згуртаванні беларусаў свету “Бацькаўшчына”, у міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, у таварыстве “Беларусь – Ірландыя”. Але найбольш яна вядомая сваёй працай у рэспубліканскім дзіцячым фондзе духоўна-культурнага адраджэння “Сакавік”. Марыя ўзначальвае фонд ад самага стварэння яго ў 1993 годзе, на сёмыя ўгодкі аварыі ў Чарнобылі. Спачатку фонд працаваў найбольш у кірунку адпачынку і лячэння дзяцей за мяжой. Цяпер фонд пашырае сваю дзейнасць, уключае ў праграму і адукацыйна-культурныя аспекты – напрыклад, навучанне беларускіх дзяцей у школах Вялікабрытаніі. Фонд “Сакавік” наладзіў сталыя кантакты з Англіяй, Валіяй, Ірландыяй і інш. Актыўна дапамагае фонду а. Аляксандр Надсан з Лондана. Вось ужо дзесяць гадоў у Валіі, у горадзе Ньюпорце, прымаюць беларускіх дзяцей на аздараўленне Майкл і Марсія Доўэлы. Гэта незвычайная сям'я, апантаныя дапамогай беларускім дзецям людзі. Яны разам з іншымі валійцамі Майкам і Хілары, Бобам і Мішэль і інш. штогод прывозяць у Беларусь лекі, вітаміны, адзенне, харчаванне, медычнае абсталяванне. Яны не звяртаюць увагу на ўласныя праблемы, свой гадавы адпачынак праводзяць на дарогах з гуманітарным грузам. Гэты ланцужок неабходнай дапамогі не абарваўся нават тады, калі Марсія зламала нагу: з нагой у гіпсе яна прымала дзяцей, везла гуманітарны груз у Беларусь. Ніякія угаворы адпачыць не дапамаглі – яна ўпэўненая: ніхто не дагледзіць беларускіх дзяцей так, як яна. Таму і называюць іх дзеці “мама Марсія” і “тата Майкл”.

Марыя Міцкевіч перадала ім сваю любоў да беларушчыны – у хаце ў Доўэлаў вісіць наш бел-чырвона-белы сцяг, гучаць песні Данчыка, беларускіх гуртоў, а сама гаспадыня падчас беларускіх святаў апранае вышываную кашулю. І Марыя, і я, як супрацоўніца фонду “Сакавік”, маем добрае ліставанне з сябрамі з Вялікабрытаніі, і нам вельмі прыемна, што канверты заўсёды падпісаныя на беларускай мове.



Марыя Міцкевіч каля помніка Ф. Скарыны ў Празе



Марыя Міцкевіч, яе намеснік Марына Язневіч каля дома Майкла і Марсіі Доўэлаў у Валіі з гаспадарамі



# Гэй збірайцесь, крывіцкія дзеці!



Перад Зэльвенскай царквой

11 жніўня а 12 гадзіне ў Зэльвенскай царкве зышліся патрыёты Бацькаўшчыны з Беларусі і замежных краін, каб адзначыць 91-ю гадавіну з дня нараджэння Ларысы Геніюш – славутай паэтэсы, нязломнага ваяра за Беларусь, грамадзянкі Беларускай Народнай Рэспублікі да дзён сваіх апошніх.

За ўваходам справа на сцяне Зэльвенскай царквы ўстаноўлена памятная мармуровая чорная пліта з крыжам Ефрасінні Полацкай і словамі: "На зямлі беларускай мае алтары" і "Ларыса Геніюш 1910 – 1983".

Па звычаю продкаў адбылося набажэнства ў царкве і на магіле.

Пад бела-чырвона-белымі сцягамі гучалі словы ўдзячных беларусаў. Гучалі вершы Ларысы Геніюш і вершы паэтаў сённяшняй Беларусі ў гонар і на славу вечную Ларысы Геніюш.

Пасля поўдня, на ўзбярэжжы рэчкі Зальвянкі, перагароджанай плацінай, у цяні духмяных хвой люд беларускі спяваў песні, што адгукваліся рэхам у хвоях і душах людскіх і ляцелі да нябёсаў, як пасланне да Ларысы Геніюш.

Удзельнічалі ў адзначэнні 91 г. Ларысы Геніюш Уладзімір Юхо, Алесь Чахольскі, Валеры Буйвал, Анатоль Валюк, Андрэй Мельнікаў, Данута Бічэль, Юры Качук, Міхась Лаўдар з Аўстраліі.

*Ясь Язэпчык,*
*здымкі Уладзіміра Хрышчановіча.*

Ларыса Геніюш

**МОЛАДЗІ**

Гэй збірайцесь, крывіцкія дзеці,
Пад народны, пад горды наш сцяг!
Воля Краю нам зоркаю свеціць,
Яго шчасце – у нашых руках!

Мы за волю крывіцкіх прастораў,
Мы за спадчыну нашых дзядоў
Аддамо, каб насыціўся вораг,
Жыццё наша і нашую кроў.

Але Краю, што Нёман галубіць,
Гэтых сэрцаў, што воляй гараць, -
Ўжо не будзе арол крывадзюбы
Да крыві пазурамі здзіраць!

Нам не страшны сібірскі больш холад,
Нам не страшны маскаль або лях,
Чужы серп непатрэбны, ні молат –
Мы разгорнем крывіцкі наш сцяг!

Нашы сэрцы гімн родны зайграюць!..
Адгукнецеся, сёлы, ў адказ!
Мы нясём жыццё наша для Краю,
Мы нясём жыццё наша для вас!

Станем дружна ўсе брат каля брата,
Абаронім Краіну грудзьмі,
Воля будзе вялікай заплатай
За нягоды цяжкой барацьбы!

1941

**МЛЫН**

Меле млын высокі,
На сівым вяку
Меле нашу долю,
Меле на муку.

Засыпаюць ў жорны
Жыта-Беларусь,
Перамелюць з горам,
З болем ператруць.

Млынары чужыя,
Варожасць наўкруг,
Адсяваюць сіты
Беларускі дух.

Меле млын высокі
Ўдзень і уначы,
Некаму прыйдзецца
Горкі хлеб пячы.

1939



Вянок ад КХП перад мемарыяльнай дошкай Ларысе Геніюш у Зэльвенскай царкве



У час набажэнства ў Зэльвенскай царкве



Набажэнства на магіле Ларысы Геніюш



Першы злева Міхась Лаўдэр, Сідней, Аўстралія.
трэцяя злева Ніна Паўлаўна Міклашэвіч, стрыечная сястра Ларысы Геніюш, Горадня.



Вянок перад помнікам Ларысе Геніюш





А. Талерчык

# ЯК МІХАІЛ МУРАЎЁЎ ВЕШАЎ МІХАЛА ВАЛОВІЧА

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Вяртацца ў Вільню з пустымі рукамі не мела сэнсу. А ў гэты час сабранае на граніцы 125-тысячнае расійскае войска пад кіраўніцтвам генерал-фельдмаршала Дзібіча рушыла супраць Польшчы, армія якой налічвала 55 тысяч жаўнераў. Валовіч уступае ў створаную Літоўска-рускую (украінскую – А.Т.) Лігу і ў лютым з палком уланаў удзельнічае ў Грахоўскай бойцы, за што атрымлівае сваю першую вайсковую ўзнагароду.

Тым часам дыктатар Хлапіцкі падае ў адстаўку. А на Літве пачынае разгортвацца паўстанне. У кожным павеце выбіраўся паўстанцкі ўрад і абвяшчалася мабілізацыя. З 11 паветаў Віленскай губерні 9 – было ахоплена паўстаннем. Цэнтрам паўстання на Гарадзеншчыне была Белавежская пушча. Там дзейнічала тры паўстанцкія аддзелы, у якіх было каля 1000 чалавек. На Слонімшчыне дзейнічаў паўстанцкі аддзел да 100 чалавек начале з Антонам Бронскім. Актыўным стваральнікам гэтага атрада быў Казімір Валовіч – бацька Міхала.

Новы Народны ўрад Польшчы вырашыў дапамагчы Літве зброяй, якую кантрабандным шляхам меркавалася прывезці на англійскім караблі ў Палангу. Арганізаваць сустрэчу карабля ў Паланзе ды разгрузку зброі даручылі групе эмісараў, у якую ўваайшлі Валовіч і Пржэцлаўскі. 4 сакавіка 1831 года Валовіч з сябрамі пакінуў Варшаву і накіраваўся ў Палангу. З вялікімі цяжкасцямі, прабіраючыся праз расійскія заслоны, Валовіч з сябрамі дабраўся да Палангі. Аднак іх тут напаткала няўдача: Паланга яшчэ 8 сакавіка была захоплена расійскімі войскамі.

Эмісары звязаліся з кіраўніком партызанскага аддзелу Тальшэўскага павету Яцэвічам і вырашылі захапіць Палангу. 10 траўня яны разбілі расійскі аддзел пад Дабрыянамі, а 13 траўня пачалі штурм Палангі. Бойка была зацятай. Аддзел Камінскага, у складзе якога змагаліся Валовіч і Пржэцлаўскі, прабіўся да галоўных умацаванняў. Перамога, здавалася, была ў руках аддзелу Камінскага. Але неспадзяваны падыход вялікіх расійскіх сіл з генералам Пагленам не дазволіў авалодаць Палангай. Давялося адступаць на Рэтаў, а калі і гэтая дарога была перарэзаная, рушылі на Таўрагу, дзе іхні аддзел быў канчаткова разбіты.

Тэрмінова трэба было паведаміць Народнаму ўраду ў Варшаве наконт немагчымасці дастаўкі зброі праз Палангу. Выбар зноў прыпадае на Валовіча, якому перад гэтым надалі чын ротмістра (капітана) літоўскай кавалерыі і ўзнагародзілі ганаровым вайсковым крыжам. Па дарозе ў Варшаву ён напаткаў пад Рэйградам 12-тысячны польскі корпус генерала Гелгуда, які там 25 траўня разбіў расійскі корпус генерала Сакена і трыумфальным маршам крочыў праз Жмудзь на дапамогу ліцвінам, але потым замарудзіў гэты рух. Гелгуд пачаў траціць дарагі час на парады, фэсты, гулянкі, калі была мажлівасць заняць Вільню. Не скарыстаў ён і тых абставін, што рускую армію пачала касіць халера, занесеная сюды войскамі, перакінутымі ў Літву з Сярэдняй Азіі. Халера не шкадавала ні салдатаў, ні генералаў. Усяго ад яе ў царскай арміі тады загінула больш 5 тысяч чалавек. Не ўратаваліся і памерлі фельдмаршал Дзібіч і вялікі князь Канстанцін – намеснік цара ў Польшчы.

Надаючы важнасць захопу Вільні, сталіцы ВКЛ, польскі ўрад яшчэ 20 траўня загадаў невялікаму корпусу з 720 чалавек начале з генералам Хлапоўскім рушыць праз Белавежскую пушчу і Гарадзеншчыну на Вільню. У Троцкім павеце да корпуса далучылася Эмілія Плятэр з 400 паўстанцамі. Да Вільні Хлапоўскі падышоў 13 чэрвеня з 5-тысячным аддзелам і пачаў прыспешваць Гелгуда да хутчэйшага аб'яднання сіл і штурму горада. Але Гелгуд марудзіў. Гэтае злучэнне адбылося толькі 18 чэрвеня. А тым часам не спала і расійскае камандаванне, якое тэрмінова сцягвала ў Вільню значныя сілы. Як піша В. Поль "... штодзённа па вуліцах Вільні больш падобна на людскую раку чым на ледаход, цякла грозная чэрнь, панурая і маўклівая, якая складалася з карпусоў расійскай гвардыі ды азіяцкіх ордаў казакаў, чаркесаў і башкірцаў... Цэлымі днямі цягнуліся палкі па вуліцах Гродскай ды Вострабрамскай. Цэлымі начамі енчыў брук Вільні пад коламі артылерыйі ды павозак з амуніцыяй".

Запозненая акцыя па захопу Вільні скончылася паразай. Апрача таго, што на подступах да Вільні, на Панарах, было забіта і паранена каля 2 тысяч жаўнераў, адбылася агульная дэмаралізацыя войска. З гэтага часу корпус Гелгуда знаходзіўся ў адступленні. Валовіч пад камандаваннем генерала Шыманоўскага яшчэ прымаў удзел у бітвах пад Шаўлямі, Душвэнтамі, Повэндэнямі і Новым Мястам. Каб пазбегнуць канчатковага разгрому і хоць часткова вывесці войска да Варшавы, пад Куршанятамі корпус Гелгуда падзялілі на тры часткі, камандаваць якімі былі прызначаны генералы Хлапоўскі, Дэмбінскі і Рогланд, з апошнім быў і Гелгуд. Каб увесці ворага ў зман, кожнаму быў вызначаны свой маршрут да Варшавы. Але толькі Дэмбінскі, прадзіраючыся сярод мноства небяспечнасцяў і нечаканых сутычак, змог, прайшоўшы 120 міль па Гарадзеншчыне (Жодзішкі-Смаргонь-Навагрудак-Дзятлава-Зэльва-Поразава), прыйсці да Варшавы.

Па дарозе да Дэмбінскага ў Навагрудку далучыліся паўстанцы начале з Язэпам Кашыцам, якія перад падыходам Дэмбінскага напалі на рускі гарнізон і прымусілі каменданта Фэлькерзамба пакінуць горад. Слонімскія паўстанцы начале з Цітусам Пуслоўскім і Антонам Бронскім таксама далучыліся да корпуса Дэмбінскага і рушылі на дапамогу Варшаве. З імі быў Казімір Валовіч.

Групоўкі Хлапоўскага, Рогладa з Гелгудам, ухіляючыся ад сутычак з рускімі войскамі, накіраваліся да Варшавы уздоўж прускай мяжы, але, прыціснутыя рускімі войскамі да яе, перайшлі 15 ліпеня ў Прусію, склалі зброю, былі інтэрнаваныя і змешчаныя ў лагер. Тут быў Міхал Валовіч. Сярод салдатаў і афіцэраў было такое абурэнне дрэнным кіраўніцтвам Гелгуда, што пры пераходзе прускай мяжы капітан Скульскі яго застрэліў.

Міхал Валовіч і чатыры ягоныя сябры таемна пакінулі лагер, купілі сялянскую вопратку і вырашылі вярнуцца на Радзіму. Але пруския жаўнеры схапілі іх, аддалі пад суд і пасадзілі ў турму. Праз некаторы час іх выпусцілі з турмы і пераправілі ў Францыю, дзе ў Парыжы Міхал сустрэўся са сваім бацькам. Тут у эміграцыі ўжо знаходзілася больш як 250 былых паўстанцаў з Гарадзенскай губерні.

За заслугі ў паўсатнні Валовіч і Пржэцлаўскі 4 кастрычніка 1831 года Цэнтральным урадам Польшчы былі ўзнагароджаны залатымі кавалерскімі Крыжамі. Францыя, удзячная паўстанцам за зрыў паходу расійскіх войск у Заходнюю Еўропу, прызначыла паўстанцам грашовае ўтрыманне.

А гэтым часам, калі бацька і сын Валовічы знаходзіліся ў эміграцыі ў Францыі, 19 кастрычніка 1831 года выйшаў указ Мікалая I, у якім загадвалася Віленскаму і Гарадзенскаму ваеннаму губернатару князю Далгарукаву арганізаваць ваенны суд над паўстанцамі на месцах іх здзву і здзяйсняць смяротныя вакі там, "где ими злодеяния их учинены". З 8 лістапада 1831 года да 11 снежня 1834 года ў Горадні засядала губернская следчая камісія "для определения степени вины мятежников, секвестра и конфискации их имений". У шляхты, абшарнікаў і манастыроў было канфіскавана многа маёнткаў: у Гарадзенскім павеце – 3, У Ваўкавыскім – 5, у Лідскім – 10, у Навагрудскім – 12, Слонімскім – 19. Гарадзенскай губернскай камісіяй 19 кастрычніка 1832 года бацька і сын Валовічы былі прылічаныя да злачынцаў другой катэгорыі, а іх маёнтак Парэчча быў канфіскаваны на карысць дзяржавы. Адабралі гаспадарскі дом, дом эканома, вінакурню, валоўню, корчму, прыхадскую уніяцкую царкву з домам святара, а таксама мноства другіх пабудоваў. Забралі 163 тамы кніг на польскай, нямецкай і французскай мовах, якія потым былі вывезены ў Пецярбургскую публічную бібліятэку. Канфіскаваны 3 каровы і 6 цялятаў, бо, як сказана ў справе аб секвестры маёнтка, 50 галоў дваровай рагатай жывёлы без догляду да гэтага здохлі.

У Парыжы Валовіч прымаў чынны ўдзел у эміграцкім жыцці. Быў сябрам Лелявеля і прыхільнікам яго ідэяў. Уваходзіў у Нацыянальны польскі камітэт, прымаў актыўны ўдзел у дзейнасці Таварыства літоўскіх і рускіх земляў пад кіраўніцтвам Цэзара Плятэра. Належаў да той групы палымяных патрыётаў Дэмакратычнага Таварыства, якія прагнулі распачаць барацьбу за пабудову грамадства на новых, больш дэмакратычных асновах. Аналізуючы прычыны недастатковага ўдзелу людзей у лістападаўскім паўстанні, лічыў, што ў большасці шараговых паўстанцаў не было зацікаўленасці ў ім. Валовіч прытрымліваўся поглядаў Т. Крэмпавецкага, які заяўляў: "Аб апошнім паўстанні сцвярджаю, што яно было падхоплена толькі шляхтай, якая хацела скінуць уладу Мікалая, каб мець магчымасць яшчэ безкантрольней і мацней прыгнятаць сялянаў, выкарыстоўваючы для гэтага царскі дэспатызм". А таму адбудову незалежнай дэмакратычнай Літвы, звязанай федэратыўнымі адносінамі з Польшчай, Валовіч лічыў, што трэба пачынаць з грамадскіх рэформаў, з адмены прыгонніцтва і надзелу сялян зямлёю, з абуджэння іх нацыянальнай свядомасці. Сродкам дасягнення дэмакратычнага і справядлівага грамадства лічыў сацыяльную рэвалюцыю агульнаеўрапейскага маштабу. "Эміграцкая хроніка" згадвае Валовіча як чалавека, адданага рэспубліканскім прынцыпам.

У гэты час патрыятычная эміграцкія колы зьліжаюцца з Вярхоўным кіраўніцтвам тайнага карбанарскага Інтэрнацыяналу і чынна рыхтуюцца распачаць у першай палове 1833 года агульнаеўрапейскае паўстанне прыгнечаных народаў супраць манархаў Еўропы. У поспех такога паўстання шчыра паверыў і Валовіч, асабліва тады, калі за падрыхтоўку і правядзенне яго на Беларусі ўзяўся палкоўнік Юзаф Заліўскі, адзін з арганізатараў лістападаўскага паўстання 1830 года ў Польшчы. Ягоная ідэя зводзілася да арганізацыі шырокага вызвольнага партызанскага руху. Паводле планаў Заліўскага, на Беларусь павінны былі выехаць усе патрыёты-эмігранты і ў сваіх родных мясцінах пачаць партызанскую вайну, уцягваючы ў яе мясцовых сялянаў гарантыямі надзелу ўласную зямлёю і вызвалення ад ланшчыны.

Для аператыўнага кіраўніцтва паўстаннем уся тэрыторыя Беларусі была падзелена на акругі, у склад якіх увайшло па два паветы. Начале акруг яшчэ ў Парыжы зацвярджалі начальніка, а той сам падбіраў намесніка і двух памочнікаў. Міхал Валовіч пагадзіўся стаць паўстанцкім начальнікам слонімска-навагардскай акругі. Марцэль Шыманскі – гарадзенскае акругі, Юзаф Гардынскі – беластоцка-сакольскай, Адам Пішчатоўскі – віленскай. Была пастаўлена задача, каб да пачатку "...усеагульнага выступу прыгнечаных народаў Еўропы" ўсе кіраўнікі акругоў знаходзіліся на месцы і падрыхтавалі сялянаў у патрэбны момант актыўнымі выступленнямі спрыяць звяржэнню ўсіх манархаў Еўропы, у першую чаргу-расійскага цара.

У пачатку сакавіка 1833 года патрыёты невялічкімі групкамі з фальшывымі пашпартамі рушылі з Францыі праз Швейцарыю, Баварыю, Саксонію, Галіцыю ды Прусію на Бацькаўшчыну. Многія не вытрымалі цяжкасцяў блукання па чужых краінах і вярнуліся назад, іншыя былі схопленыя ўжо на мяжы. Але найболын здатныя, як было дамоўлена, да 19 сакавіка перайшлі мяжу і распачалі падрыхтоўку паўстання. Сярод іх быў Міхал Валовіч са сваім памочнікам Язэпам Яцкевічам. Пешшу, па веснавым бездарожжы, абмінаючы вёскі, маючы пры сабе два рэвальверы, камплект бялізны і 55 рублёў, яны спачатку дабраліся ў Ваўкавыскі павет да Міхайлавай сястры Ганны, якая была замужам за Дамянікам Аскеркам, былым маршалкам ваўкавыскай павятовай шляхты. За ўдзел у Патрыятычным таварыстве Дамянік Аскерка быў асуджаны напрыканцы 1830 г. і выселены ў Варонежскую губерню, адкуль вярнуўся толькі ў мінулым годзе і знаходзіўся пад наглядам паліцыі. Пазнаўшы пакуты выгнанніка, ён раіў Валовічу адмовіцца ад задуманага і вярнуцца за мяжу. "Я рашыў вярнуцца на сваю Бацькаўшчыну, - адказаў Міхал, - каб астатак жыцця правесці ў тутэйшых лясах і памерці тут". Аскерка пакінуў настойваць на яго ад'ездзе і нават садзейнічаў знаёмству з абшарнікам Шабанскім, які 10 дзён хаваў іх у фальварку Бараўшчына. Ён дапамог Валовічу звязацца з Міхалам Песакоўскім, былым прыгонным бацькі Валовіча, якому 13 гадоў таму была дараваная вольнасць. Цяпер ён жыў у фальварку Яловікі, які знаходзіўся за Шчараю ў 4 вярстах ад маёнтка Парэчча.

Але на некаторы час ўся дзейнасць была спынена з-за хваробы Валовіча. Блукаючы па лясах халодную слотнаю вясной, ён моцна прастудзіўся. Цела нібыта агнём гарэла. Амаль беспрытомным ён вярхом на кані дабраўся да Шабанскага. Той прывёз з Ваўкавыска вядомага доктара, які спачуваў паўстанцам, - Ізідара Нагумовіча. Патрыятычныя намеры Валовіча ўзрушылі, як Шабанскага, так і Нагумовіча. Яны, як маглі, лячылі Валовіча, але дапамагаць яму разгортваць партызанскі рух пабаяліся.

Песакоўскі без ваганняў далучыўся да Валовіча і ўзяў на сябе абавязкі па забяспячэнню будучага аддзелу харчаваннем, адзеннем, а таксама наладжваннем сувязяў з мясцовымі сялянамі. Гэта ён прывёў у аддзел парэцкага лясніка Лявона Панасюка, якому Валовіч гарантаваў пасля перамогі паўстання даць вольную і бясплатны зямельны надзел. Лявон Панасюк прывёў яшчэ двух парэцкіх хлопцаў, братоў Яна і Базыля Панасюкоў, апошні хаваўся ад рэкруцкага набору. Потым да Валовіча далучыўся Тамаш Васіліцкі, былы ўдзельнік паўстання 1830 года, які пасля яго паразы вярнуўся з. Прусіі дадому і быў краўцом у Шундрах. Прыйшлі ў аддзел хлопец з Задвор'я – Мікалай Фярадка і два хлопцы з маёнтка Кіеў – Аляксандр Лапко і Сцяпан Сідаркевіч. Іх стала 12 чалавек.

*(Праця у наст. нумары.)*





Станіслаў Суднік

# Сейлавічы: крэскі на белай пляме

## Спроба тапанімічна-этнаграфічнага эсэ

*(Працяг. Пачатак у папяярэднім нумары.)*

**З гісторыі Сейлавіч**

Як бачна на прыведзенай у папярэднім нумары карце, Сейлавічы стаяць у чыстым полі. Да Госцібна каля трох кіламетраў. Сейлавіцкія землі падходзяць ушчыльную да Слаўкава, Затур'і, Андрушоў, як кажуць, пад вокны. Толькі з боку Ганусаўшчыны паміж Сейлавічамі і Ганусаўшчынай ад мяжы сейлавіцкіх зямель да Ганусаўшчыны ляжыць значны абшар і ганусаўскіх зямель. Плошча сейлавіцкіх зямель каля 2000 гектараў. І ніякіх гістарычных звестак пра гэтую тэрыторыю.

Разам з тым зусім побач, за 0,7 км. на ўсход ад Слаўкава, ва ўрочышчы Іванава Гара ў ельніку знойдзены каменныя магілы. Захавалася каля 20 магіл з каменнымі абкладкамі і вертыкальна пастаўленымі камянямі. Абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся. Каменныя магілы могуць адносіцца і да сярэдніх вякоў, і да каменнага веку. Ясна толькі, што людзі тут жылі даўно.

Да слова, гарадзішча жалезнага веку з посудам штрыхавой керамікі знойдзена каля в. Жанкавічы Казлоўскага сельсавету. Гэта ад Сейлавіч кіламетраў дваццаць

Я не пасягаю на глыбокае адлюстраванне гісторыі Сейлавіч. Над гэтым трэба яшчэ працаваць і працаваць, але адназначна магу сказаць, што гэтыя 2000 гектараў не былі пустымі.

Не трэба быць вялікім гісторыкам, каб выказаць здагадку, што большасць зямель вакол Нясвіжа належала Радзівілам.

З бліжніх зямель Мікалай Радзівіл Сіротка ў 1566 - 1587 гадах набыў у прыватных уласнікаў Ліпу, Свержань, Алекавічы, Лань, Кукавічы, Юшавічы, Задзвею, Быхаўшчыну, Чанавічы (мабыць, будучыя Качановічы), Салтанаву Гаць (сённяшняя Салтанаўшчына). У 1568-69 гадах да яго ў спадчыну перайшло і далучана да Нясвіжскага княства Мірскае графства. У 1587 годзе гэтая латыфундыя падзялялася на 7 ключоў: Нясвіжскі, Мірскі, Свержаньскі, Быхаўшчынскі, Чанавіцкі (Качановіцкі), Салтанаўскі, Затурэнскі (Затур'янскі) і налічвала каля 40 вёсак. У 1587 - 1602 гадах набыты і далучаны да Нясвіжскага княства Белікі, Кунаса, Мікалаеўшчына, Гарадзея, Магільна, Лунін, Андрушы, Атцэда.

На карце 1770 года, якая выканана на французскай мове з усіх вёсак вакол Сейлавіч паказана толькі Кунаса, хоць і аднесена крыху ўбок. Пазначана, што ў Кунасе была царква. Ёсць меркаванні, што назва Кунасы звязана з імем Кунаса (Куна) сына легендарнага Палемона (раней 1040 г.). Калі б гэта было так, то Кунаса старэй і Менска, і Масквы, і Нясвіжа. Але Палемон -- фігура цалкам легендарная. У Энцыклапедыі гісторыі Беларусі (Т.5, ст. 582) Кунас адносіцца ўжо да роду Дарспрунка, а гэта пазней 1205 года. Але Дарспрунк -- ужо фігура напаўлегендарная. Мог дзесці і быць такі ліцьвінскі князёк. У 18-м ст. вядомы род Гімбут - Кунасевічаў, якія са спасылкай на легендарнага Кунаса называлі сябе князямі.

Кунаская Свята-Дабравешчанская ўніяцкая царква вядомая з другой паловы 18-га стагоддзя. У архіве ўніяцкіх епіскапаў сярод копій метрычных кніг Берасцейскай уніяцкай епархіі захаваліся метрычныя кнігі з запісамі пра нарадзіўшыхся з 1767 года, пра ўзяўшых шлюб з 1790 года, пра памёршых з 1784 года па жнівень 1801 года, за выключэннем запісаў за травеньскую і вераснёвую трэці 1799 года. У 1834 годзе царква перароблена ў праваслаўную. У 1851 годзе была адрамантавана за кошт князя Радзівіла. Згарэла 13.09.1877 года. Новая царква пабудавана ў 1887 годзе з дрэва. Рэстаўравана ў сярэдзіне 90-х гадоў 20-га стагоддзя. Асвечана мітрапалітам Філарэтам.

Помнік народнага дойлідства з рысамі рэтраспектыўна-рускага стылю. Адносіца да тыпу крыжовакупальных храмаў. Да цэнтральнага кубападобнага аб'ёму далучаны прамавугольныя ў плане прытвор, бакавыя прыдзелы і 5-гранныя апсіды з бакавымі рызніцамі. Над сяродкрыжжам узведзены 8-гранны светлавы барабан, завершаны шатром і 5 вежачкамі. Гарызантальнага ашаляваныя сцены па вуглах аздоблены living pilasters розвымі пілястрамі, прарэзаны аконнымі праёмамі ў розных ліштвах. У інтэр'еры апсіды вылучана драўляным інакастасам.

У 1800 годзе ў Кунасе было 15 двароў, 142 жыхары, драўляны панскі двор, вінакурня, карчма, два вадзяныя млыны.

У 1884 годзе тут адкрыта школа пісьменства, вучылася 16 хлопцаў і 2 дзяўчынкі. У 1916 годзе пачала дзейнічаць народная навучальня.

З іншых вёсак Нясвіжскага раёна на карце 1770 года паказана Рудаўка, Качановічы, Ліпа, Гарадзея, Вужанка. Уніяцкія цэрквы былі ў Гавязне (1768, Стаўбцоўскі р-н), Грыцкевічах (1800), Лані (1779), Малеве (1795), Салтанаўшчыне (1793), Цімкавічах (Капыльскі р-н, 1784), Гарадзеі (дзве, 1785), Ліпе (1798), Лысіцы (1798), Астроўках (1798), Снове (1798), Пацейках (1776). Год у дужках абазначае не дату заснавання, а дату пачынаючы ад якой захаваліся метрычныя кнігі.

Але побач з гэтымі радзівілаўскімі ўладаннямі частка зямель належала шляхце: ваколічнай і засцянковай. Вакол Сейлавіч стаялі шляхочыя засценкі Суднікі, Бучныя, Пасякі, Ліпніцкія і, магчыма, Слаўкава. Калі і як узнікаў кожны з іх, гаворка асобная. Насяляла іх радзівілаўская шляхта.



Кунаская Свята-Дабравешчанская царква. Здымак 16.06.2001 года.

Але гэтыя землі не належалі Радзівілам. Засценкі не купляліся, не прадаваліся, яны былі вольныя, таму і не траплялі ў дакументы

Землі гэтых засценкаў падковай ахопліваюць сейлавіцкія землі. І толькі Ліпніцкія трапляюць на плошчу сейлавіцкіх 2000 гектараў.

Адсутнасць Сейлавіч на карце 1770 года не абазначае, што Сейлавіч у 1770 годзе яшчэ не было. Хутчэй гэта значыць, што тут не было нічога знакамітага.

Разам з тым мы павінны згадаць ужо названую Шведскую гару. Так гэтая гара называецца толькі ў Сейлавічах. Ні на адной карце гэтай назвы няма. Ні ў адной іншай вёсцы гэтай назвы не ведаюць. Гэта мясцовая назва. Яе далі мясцовыя людзі.

Шведы ваявалі на Нясвіжчыне падчас вайны 1700 - 1721 гадоў. Асабліва ўпартыя баі ішлі пры абароне Нясвіжа ў 1706 годзе. На Шведскай гары паводле мясцовых паданняў пахаваны забітыя шведы. Косці іх ізноў былі нядаўна выкапаны пры спробе распачаць кар'ер. Трэба аддаць належнае сейлаўцам. Яны засыпалі косці на месца і пераехалі адкрываць кар'ер на другую гару. Наступны раз прыедуць гадоў праз дваццаць, калі зменіцца пакаленне. Як паступяць тады, невядома.

Такім чынам, мы можам сцвярджаць, што ў 1706 годзе нейкае паселішча тут ужо было. А ўлічваючы, што ў вайну яно наўрад ці ўзнікла, то смела можам сцвярджаць пра існаванне Сейлавіч, ці паселішча на месцы Сейлавіч у канцы 17-га стагоддзя.

Разам з тым мы ведаем, што не ўсе сейлавіцкія землі належалі шляхце. Частка зямель належала радзівілаўскім сялянам, якія працавалі ў Ганусаўшчыне. Каб пасяліць сялян Радзівіл павінен быў набыць нейкую шляхочую ваколіцу, ці вёсачку. Таму недзе ў архівах Радзівілаў павінен быць гэты запіс.

Разам з тым мы амаль дакладна акрэслілі гады, калі дакументальна зафіксавана існаванне ўсіх навакольных вёсак: 1566 - 1587 г. г. -- Юшавічы; 1587 -- Затур'я, 1587 - 1602 -- Андрушы, Кунаса. Таму 2000 гектараў сейлавіцкіх палёў і сенажацяў, якія з усіх бакоў акружаны названымі вёскамі безумоўна былі заселены і безумоўна быў тут нейкі населены пункт. Існаванне Сейлавіч у другой палове 16-га стагоддзя сумненняў не выклікае, хаця зусім верагодна, што гэта быў населены пункт з іншай назвай.

Адсутнасць Сейлавіч на карце 1770 года гаворыць пра адсутнасць тут царквы або касцёла, бо цэрквы і касцёлы наносіліся ўсе (у тым ліку і кунаская).

Сённяшні сейлавіцкі касцёл будаваўся як уніяцкая царква. Пра гэта сведчыць аповед Яна Некраша (1921 г. н):

*" – Тут былі нейкія ўніяты, яны і пабудавалі касцёл, а потым ён нам застаўся.*

*- А Вы адкуль гэта ведаеце. Гэта ж не пры Вашай памяці было?*

*- А мне дзед казаў.*

*- А дзеда як звалі?*

*- Ну як? Ясь. А бацька быў ужо Адам Іванавіч".*

Другое сведчанне.



**Колішняя сейлавіцкая ўніяцкая царка. Зараз сейлавіцкі касцёл Сэрца Езуса. Здымак 15. 04. 2001 года.**

Сейлавіцкі касцёл стаіць алтаром на ўсход, так як і ставіліся ўніяцкія цэрквы.

Уніяцкія цэрквы пасля 1831 года не будаваліся. У 1839 годзе вунія была забаронена. У архіве ўніяцкіх епіскапаў які заканчваецца 1801 годам метрычных кнігаў сейлавіцкай уніяцкай царквы няма. Таму калі сыходзіць з таго, што ў 1801 годзе царквы яшчэ не было, а пасля 1831 года яна, як уніяцкая, будавацца не магла, то была пабудавана недзе ў пачатку 19-га стагоддзя.

Мала верагодна, што царкву будавалі пад час вайны з Напалеонам. Царкву ў той час маглі пабудаваць толькі пры фундацыі багатага землеўласніка. На Нясвіжчыне такім быў толькі Радзівіл. Пасля 1812 года ўладанні Радзівілаў часова адышлі князю Вітгенштэйну. Малаверагодна, што расейскі князь кінуўся фундаваць уніяцкую царкву. Зноў жа не да таго было. Таму хутчэй за ўсё сейлавіцкая ўніяцкая царква была пабудавана паміж 1801-м і 1812-м гадамі. Тады дакладна можна сказаць, што фундатарам будаўніцтва сейлавіцкай уніяцкай царквы быў князь Дамінік Радзівіл.

На той час у Сейлавічах усе былі адной веры. Не было ні католікаў, ні праваслаўных. Усе былі ўніяты і ўсе маліліся разам.

*(Працяг у наст. нумары.)*

**Напярэдадні рэлізу**

# Я — нефармальны беларус!

Моладзевая ініцыятыва БМА-груп рыхтуе да выдання ў серыі "Музычны архіў" першы сольны кампакт-дыск знанага беларускага барда Сяржука Сокалава-Воюша. Прапаную вашай увазе нататкі творчасці С. Сакалова-Ваюша, якія будуць выкарыстоўвацца пры падрыхтоўцы гэтага архіўнага выдання. Будзем удзячныя за дапаўненні і заўвагі, якія дапамогуць зрабіць дыск больш поўным і адпаведным творчасці барда.

Навапалачанін па прызванню Сяржук Сокалаў-Воюш – адзін з пачынальнікаў нацыянальнай героіка-публіцыстычнай плыні ў беларускай бардаўскай песні. Класікі гэтага бардаўскага кірунку гартавалі свой паэтычны талент, выкаваўчае майстэрства не толькі ля вандроўных вогнішчаў ці ў вагонах дальніх цягнікоў, але і на падпольных канцэртах-сустрэчах сяброў "Майстроўні" ды "Тутэйшых", пад пранізлівымі вятрамі ды дубінкамі першых мітынгаў апазіцыі канца 80-х...

Сапраўды, спецыфіка ладжання масавых мітынгаў і імпрэз культурна-асветніцкага характару патрабавала побач з палымянымі палітычнымі прамовамі і лірычнай разрадкі – пажадана ўцямных, гучных патрыятычных ды сатырычных песень пад акустычную гітару. Людзі, якія стаміліся ад прамоў, вельмі чула і непасрэдна рэагавалі на песні, дасціпныя спічы бардаў, якія, такім чынам, падмацоўвалі палітычны кантэкст мітынгу ці імпрэзы.

Голас і выканаўчая манера Сяржука Сокалава-Воюша падыходзілі да такіх мэт найлепшым чынам. Сам Сяржук з віду рахманы малады беларус, які нібыта сышоў з рэкламы "Спажывайце беларускае піва!", калі браў у рукі гітару, адразу пераўвасабляўся то ў палымянага трыбуна, то ў з'едлівага сатырыка-выкрывальніка нацыянальнай здрады і хлусні, якая пачала пладзіцца за часамі панавання Кебіча і яго крэатуры.

У кнізе Зянона Пазьняка "Сапраўднае аблічча" ёсць некалькі фотаздымкаў, на якіх адлюстраваны падзеі тых гадоў. на адным з іх Сяржук Сокалаў-Воюш выконвае песні для ўдзельнікаў масавага перадвыбарчага мітынгу 25 лютага 1990 года. Барда атачаюць В. Вячорка, Ю. Хадыка, А. Марачкін. Усмешкі на вуснах лідараў апазіцыі, якія слухаюць сатырычны выступ Сяржука , відавочна, знаходзяць водгук, разуменне і спагаду ў мітынгоўшчыкаў. Менавіта так рэагавалі многія з тых, хто прысутнічаў на гэтай імпрэзе. Так думаў і я, знаходзячыся сярод першых слухачоў барда-трыбуна.

І вось здавалася б, Сяржук Сокалаў-Воюш на вяршыні славы спявака-сатырыка, але новая песня – і перад слухачамі іншы Сокалаў-Воюш – адданы патрыёт, гатовы не на словах, а на справе падхапіць святую справу Францішка Багушэвіча, Кастуся Каліноўскага, спявак, які больш за ўсё любіць Беларусь – наш адзіны паратунак і апошні прыстанак.

Трэба адзначыць, што С. Сокалаў-Воюш – першы беларускамоўны бард, які набыў масавую папулярнасць без апоры на законы шоў-бізнесу: без рэкламнай кампаніі, без афіцыйных рэалізаў і гучных прэзентацый... Сваю справу рабілі аматарскія запісы, выступы ў садках і школах з беларускай мовай навучання, простыя па кампазіцыі ды запамінальныя мелодыі. Выконваць іх маглі ўсе, каму да спадобы былі воюшавы гармоніі і паэтычныя вобразы, хто ведаў хоць некалькі акордаў.

Паказальны выпадак таго часу – выданне напаўпадпольнай студыяй "Берома" (1992) відэакасеты "Беларускія барды", на якой быў запісаны выступ С. Сокалава-Воюша і іншых выканаўцаў на першым масавым рок-канцэрце "Беларускі рок за Незалежнасць" (1991). Касета мела агульнабеларускі розгалас, на які адрэагавала рэспубліканская прэса, у прыватнасці маладзёжная газета "Чырвоная змена" (29.06.1992 г.).

Такім чынам, відомасць Сокалава-Воюша як публічнага выканаўцы спрыяла росту папулярнасці і іншых беларускіх бардаў, якія таксама перасталі цурацца хатніх канцэртаў ды мітынговых пляцовак ад Гародні да Гомеля – Алеся Камоцкага, Андруся Мельнікава, Віктара Шалкевіча, Вальжыны Цярэшчанкі. І гэтыя выканаўцы ішлі за славай Сокалава Воюша, бо менавіта яго таленавітыя зонгі паклалі пачатак краёвай папулярнасці іншых беларускіх бардаў, цікавасці да бардаўскай музычнай публіцыстыкі – напрамку аўтарскай песні, дзе Сокалаў-Воюш па праву лічыцца пачынальнікам і класікам...

Біяграфія Сяржука Сокалава-Воюша – гэта абагульнены жыццяпіс цэлага пакалення нашых равеснікаў, у чыё жыццё тады арганічна ўвайшло нацыянальнае Адраджэнне 80-х, аптымізм якога потым змяніўся агульнай роспаччу і ганьбай рэферэндумаў і моўным ціскам канца 90-х, стагнацыяй змаганнем за незалежнасць краіны на пачатку ІІІ-га тысячагоддзя.

Але да таго быў год галасітага Пеўня – 1957, калі на свет з'явіўся Сярожа Сокалаў, будучы філолаг, выкладчык беларускай мовы і літаратуры, актывіст "Майстроўні", паэт, выдавец падпольных друкаў, бард і журналіст беларускай рэдакцыі "Радыё Свабода"... Да гэтага ж быў тыповы жыццёвы шлях беларускага юнака з правінцыі: вучоба ў школе, па заканчэнні – праца на заводах Наваполацка, служба ў савецкім войску, вучоба ў БДУ, пад час якой Сяржук поўнасцю асэнсоўвае сябе, як нацыянальна свядомы творца, за што не аднойчы падвяргаўся рэпрэсіям з боку тагачасных уладаў.

З гледзішча самых значных этапаў жыцця і творчасці, крытыкі і аматары вылучаюць некалькі найбольш значных. Па-першае, трэба ўзгадаць сумесны з вядомымі актывістамі і распачынальнікамі сучаснага нацыянальнага руху В. Вячоркам і С. Дубаўцом выпуск падпольнай газеты "Люстра дзён", зблізкенне з лідарамі наваполацка-полацкага кола літаратараў і вольнадумцаў У. Арловым, А. Аркушам, В. Мудровым, удзел у працы і акцыях легендарных "Майстроўні" і "Тутэйшых".

Без перабольшвання, думаю, будзе дакладным сцвярджэнне, што самым першым нацыянальным хітом стала песня на верш С.Сокалава-Воюша "Аксамітны летні вечар", мелодыю для якой напісаў таксама навапалачанін Вадзім Навіцкі – трэнер па каратэ ў адным з мясцовых клубаў усходніх адзінаборстваў. Пра стварэнне гэтага нацыянальнага эвергрына з захапленнем распавядаў Сяржук "Аніса" Анішчанка – наваполацкі рок-музыка і бард. Менавіта Аніса быў арганізатарам сумесных з Сокалавым-Воюшам канцэртаў у Наваполцку "Трэба жыць тут", калі бард на непрацяглы час вярнуўся на Радзіму.

А адбывалася гэтая памятная размова пад час канцэртнай часткі ІІІ Вальнага Сойму канфедэрацыі беларускіх суполак, што адбыўся пад Баранавічамі ў 1999 годзе. Тады многія з ветэранаў канфедэрацыі, барды маладой генерацыі ўспаміналі песні Сокалава-Воюша, яго ўдзел у рабоце мінулых Сойму, адзначылі тое, што сёння тут нам не хапае яго песень, ідэй, аптымізму, ствральнай энергетыкі. Але надзея на хуткую сустрэчу, усё ж, застаецца.

Гімнам незломанаму духу змагароў-паўстанцаў 1863 года за незалежнасць Бацькаўшчыны стаў у С. Сокалава-Воюша бардаўскі цыкл, - зноў жа першы канцэрт беларускай аўтарскай песні, - "Песні касінераў", у якім сапраўднымі шэдэўрамі слухачы і крытыкі адразу назвалі "Маналогі" Францішка Багушэвіча і Кастуся Каліноўскага. Бард, як і належыць пранікнёнаму аўтару, дамогся амаль ідэальнага спалучэння мелодыі і паэтычных вобразаў, інтанацыйнага акрэслення асноўнага пачуцця, з якім ствараўся гэты цыкл – любові да роднага краю, да гістарычных яго постацяў. Папулярнасць "Песняў касінераў" спрыяла і поспеху першай кніжкі паэта "Кроў на сумётах" (1989 г.), якая праз гэта стала бібліяграфічнай рэдкасцю.

Але не толькі "Аксамітны летні вечар" ды "Песні касінераў" захаплялі нацыянальна свядомую моладзь 80-90-х гадоў. нашыя аднагодкі добра памятаюць і воюшаўскі "Крупнік", "Нефармальнага беларуса", "Альпіністкую песню" і гумарыстычную песню – кавер "З крыламі свіння". Менавіта гэтая дзівосная жывёліна стала сімвалам фестывалю музыкі маладой Беларусі "Басовішча", што толькі пачынаў тады праводзіцца на Беласточчыне, а сам Сяржук Сокалаў-Воюш – кумірам беластоцкіх слухачоў і хэдлайнерам фэсту.




Ну а пра дапасаванасць песні Сокалава-Воюша "Фронт" да духоўных і мабілізацыйных патрэб сяброў БНФ магу распавесці з уласнага досведу ўдзелу ў жыцці Койданаўскай Рады: амаль кожны збор, вечарына, удзел у мітынгу заўсёды суправаджаўся супольным выкананнем па-БНФаўску рашучага гімна. "Фронт, фронт, фронт..." І большасць сяброў нашай Рады адзначылі тое, што песні наваполацкага барда спрыяюць духоўнаму гартаванню, аптымістычнаму погляду на жыццё і перспектывы нацыянальнага Адраджэння.

Нажаль, папулярнасць Сяржука Сокалава-Воюша, ягоная заўсёдная заангажаванасць, як апазіцыйнага трыбуна, не спрыялі дастатковай студыйнай працы барда. І таму дыскаграфія Сокалава-Воюша складаецца ўсяго толькі з аднаго афіцыйнага рэліза – касеты "Песні беларускіх бардаў" (1992 г.), дзе сярод твораў іншых аўтараў запісаны і цыкл "Песні касінераў".

Вядома, тыя, хто запрашаў барда на свае частыя палітычныя імпрэзы маглі б прывіць большую руплівасць – паспрыяць выданню належнымі накладамі музычнай спадчыны песняра, які ўвесь свой талент, выканаўчы запал без шкадаванняў аддаваў змаганню за незалежную Беларусь.

Але і без гэтага сёння папулярнасць С. Сокалава-Воюша сягае тых межаў, калі яго творы гучаць у выкананні іншых артыстаў: Данчыка, Сяржука "Анісы" Анішчыка і яго тэатра – студыі "Зьніч", гуртоў "Пошук", "Грамада". А адсутнасць сольнага альбома барда ўспрымаецца тымі, хто любіць творчасць С. Сокалава-Воюша, як нешта недарэчнае: адзін з пачынальнікаў беларускай аўтарскай песні, апазіцыйных трыбун і знакаміты паэт не мае аўтарскіх, запісаных у студыі кружэлак! А можа гэта такое наканаванне – заставацца ў памяці і сэрцы прыхільнікаў, а не на гукавых дарожках дыскаў і касет?

Гэты парадокс тым больш недарэчны, калі ўлічыць тое, што Сяржук у дадзены момант разам з сям'ёй стала пражывае на эміграцыі, дзе запісаць і выдаць кампакт-дыск значна прасцей, чым тут, на Радзіме. І тым не менш, бард імкнецца, каб дыскі выходзілі там дзе яны здаюцца найбольш прыдатнымі – у Беларусі. Менавіта тут яшчэ добра памятаюць пранікнёны і шчыры голас спевака, шчымлівыя малодыі і пранізлівыя словы песень – прызнанняў у любові да Краіны, у якой сёння драматычна супрацьстаяць патрыятызм, вытокі якога ў спадчыне Скарыны, Багушэвіча і Каліноўскага, і нацыянальная здрада.

Таму, у чаканні першага кампакт-дыска Сяржука Сокалава-Воюша, мы с задавальненнем слухаем старыя і знаныя песні барда і кажам: "Ты з намі, Сябра!".

*Анатоль Мяльгуй, музычны аглядальнік.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:*** № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:*** 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:*** 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 20. 08. 2001 г.
Наклад 5050 асобнікаў. Замова № 1871.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 274 руб., 3 мес.- 822 руб.
*Кошт у розніцу:* 70 руб.